# Голас Радзімы

№21 (2111)
25 мая 1989 г.

ГАЗЕТА БЕЛАРУСКАГА ТАВАРЫСТВА ПА КУЛЬТУРНЫХ СУВЯЗЯХ З СУАЙЧЫННІКАМІ ЗА РУБЯЖОМ
(БЕЛАРУСКАЕ ТАВАРЫСТВА «РАДЗІМА»)

Выдаецца з 1955 г.
Цана 4 кап.




## САКРАТАР РАЙКОМА

Даўно вядома: вітрына сельскай гаспадаркі — гарадскі магазін. Вось з яго і трэба пачынаць, параіў сакратар райкома. Потым будзем бачыць, чаго мы дабіліся, чаго не. Праўда, асабліва хваліцца пакуль няма чым, але...

Мяне заўсёды прыцягвала ў гэтым чалавеку нестандартнасць мыслення. Першым сакратаром Баранавіцкага райкома партыі Мікалай Дамінікан выбраны 17 гадоў назад. Праўда, у кіраўніках і да таго яму даводзілася хадзіць нямала: старшыня калгаса, дырэктар эксперыментальнай базы, старшыня райвыканкома... Займаўся ў асноўным гаспадарчымі пытаннямі. Але нехта своечасова падмеціў, што больш за ўсё гэтага чалавека вызначае ўменне трымаць цесную сувязь з людзьмі, якія працуюць на «ніжніх» паверхах сельскай эканомікі — старшынямі калгасаў, брыгадзірамі, ды і простымі калгаснікамі. Гавару пра гэта не выпадкова: усё, чаго ён дабіўся ў раёне, чаго дасягнуў раён, дзякуючы яму, сёння ў многім атаясамліваецца з энергіяй партыйнага сакратара, яго ўменнем вылучыць галоўнае звяно ў ланцугу эканамічных задач. Ён заўсёды аказваўся на вастрыі ўзнікаючых у эканоміцы сельскай гаспадаркі праблем. І тое, што прапанаваў пачаць знаёмства з дзейнасцю аграпрамысловага комплексу Баранавіцкага раёна менавіта з вітрын гарадскіх магазінаў, ужо праз некалькі мінут мяне не здзіўляла: «багаццем» тое, што я ўбачыў, не назавеш. Але словы «значна лепш, чым у іншых раёнах» найбольш трапна вызначаюць убачанае.

Раён сапраўды выглядае выйгрышна ў эканамічных пытаннях у параўнанні з іншымі рэгіёнамі БССР. І тут, зразумела, не толькі заслуга Дамінікана. Але вось тое, што ён сумеў узняць культуру партыйнай работы на якасна новую ступень, у рэшце рэшт адбілася і на высокіх эканамічных паказчыках. Прывяду толькі дзве лічбы: 120 і 150 000. Першая — колькасць сельскагаспадарчых рабочых на аграпрамысловым прадпрыемстве «Мір» Баранавіцкага раёна Брэсцкай вобласці. Другая — колькасць гарадскіх жыхароў, якія могуць спажываць яго прадукцыю круглы год. Кожны работнік, які даглядае тут жывёлу, атрымлівае за год прадукцыі на 101 тысячу рублёў. Гэта самы высокі паказчык у жывёлагадоўлі не толькі ў Беларусі, але і ў краіне. Такі вопыт работы прыцягвае ўвагу многіх савецкіх спецыялістаў. І асабліва аўтарытэтным гучыць для іх заўсёды слова Мікалая Дамінікана, аднаго з таленавітых і дбайных гаспадароў раёна, Героя Сацыялістычнай Працы.

Р. КОЛАБАЎ.

● Мікалай ДАМІНІКАН з Героем Сацыялістычнай Працы дырэктарам жывёлагадоўчага комплексу «Мір» Мікалаем ДУДУКОМ.

● Мікалай ДАМІНІКАН і дырэктар эксперыментальнай базы «Вольна-Чарніхава» Леў АЛІФЕРКА.

● Любіць сакратар райкома родныя мясціны.

Фота Я. КОКТЫША.





БЕЛАРУСЬ У ААН

## ПРЫЯРЫТЭТНАЯ ЗАДАЧА

Беларуская ССР заўсёды разглядала і разглядае барацьбу з расізмам і расавай дыскрымінацыяй у якасці прыярытэтнай задачы ААН, заявіў прадстаўнік БССР Ігар Цярноў, выступаючы ў Нью-Йорку на пленарным пасяджэнні сесіі эканамічнага і сацыяльнага савета ААН.

Прамоўца нагадаў, што па законах БССР забаронена і крымінальна караецца распальванне нацыяналістычных і расавых прадузятасцей, існуе адміністрацыйная і судовая адказнасць за дыскрымінацыйныя дзеянні па прыкметах расы, нацыянальнасці, полу і інш.

І. Цярноў асудзіў бесчалавечную расісцкую палітыку ўрада Паўднёвай Афрыкі, указаўшы, што апартэід па-ранейшаму працягвае з'яўляцца пагрозай для міру, для ўсяго чалавецтва. БССР ужо неаднаразова заяўляла аб гэтым і робіць гэта сёння, падтрымліваючы вывад «спецыяльнай рабочай групы аб парушэннях правоў чалавека ў Паўднёвай Афрыцы». Міжнароднае таварыства павінна прыняць усеабдымныя санкцыі супраць рэжыму Прэторыі.

ДАСЯГНУТА ДАГАВОРАНАСЦЬ

## КІТАЙ—ПРЫГРАНІЧНЫ ПАРТНЁР

Яшчэ адзін зарубежны спажывец—Кітайская Народная Рэспубліка—з'явіўся ў вытворчага аб'яднання «Беларуськалій». Дасягнута дагаворанасць, што сёлета на безвалютнай аснове туды будзе адпраўлена тысяча тон мінеральных угнаенняў.

Існуе такая форма ўзаемавыгаднага абмену, як прыгранічны і прыбярэжны гандаль. Яна прадугледжвае пэўныя льготы для абодвух партнёраў. З гэтага года такі статус атрымалі БССР і Кітай. Магчыма, нехта здзівіцца: у іх жа няма агульнай дзяржаўнай граніцы. Але гэта ўмова не з'яўляецца абавязковай пры заключэнні падобных пагадненняў. Так што КНР пасля Польшчы і Югаслаўскай Рэспублікі Славеніі стала для БССР яшчэ адным партнёрам па прыгранічнаму гандлю.

У АКАДЭМІІ НАВУК

## УКЛАД ВУЧОНЫХ

У Мінску адбылася сесія гадавога агульнага сходу Акадэміі навук рэспублікі. Уступным словам яе адкрыў прэзідэнт АН БССР акадэмік У. Платонаў.

З дакладам аб асноўных выніках развіцця навуковых даследаванняў выступілі віцэ-прэзідэнты АН БССР акадэмікі АН БССР А. Сцепаненка, І. Ліштван, У. Салдатаў, І. Навуменка. Вынікі навукова-арганізацыйнай работы прэзідыума акадэміі за 1988 год падведзены ў дакладзе галоўнага вучонага сакратара прэзідыума АН БССР акадэміка АН БССР А. Ганчарэнкі.

На сходзе адзначалася, што ў мінулым годзе творчыя намаганні вучоных акадэміі былі сканцэнтраваны на далейшым паглыбленні працэсаў перабудовы, паскораным развіцці фундаментальных даследаванняў, выкананні навуковых і навукова-тэхнічных праграм па прыярытэтных напрамках. Вялікая ўвага ў ходзе дыскусіі ўдзялялася замацаванню дэмакратычных прынцыпаў у кіраванні навукай, выбарнасці кіруючых кадраў, шырокай публічнасці.

СУСТРЭЧА ВЕТЭРАНАЎ



**Цікавая падзея адбылася ў Мінску. Тут прайшла сустрэча савецкіх ветэранаў Вялікай Айчыннай вайны і былых амерыканскіх салдат. У 1945 годзе ўсе яны былі ўдзельнікамі гістарычнай сустрэчы савецкіх і амерыканскіх войск на Эльбе.**

**НА ЗДЫМКУ: ініцыятар сустрэчы савецкіх і амерыканскіх ветэранаў генерал-лейтэнант у запасе Уладзімір АРЛОЎ, фермер са штата Паўночная Караліна Ілайджы СЭМС і вучоны эканаміст штата Паўночная Караліна Эдгар ПАРСАНС гутараць з ветэранамі Вялікай Айчыннай вайны з беларускага гарадка Клецка.**

УЗАЕМАВЫГАДНА

## НА АСНОВЕ СУПРАЦОЎНІЦТВА

На працягу некалькіх гадоў дзяржплемзавод «Індустрыя» Пухавіцкага раёна падтрымлівае сяброўскія сувязі з дзяржаўнымі гаспадаркамі Польскай Народнай Рэспублікі. Тут створана аддзяленне Таварыства савецка-польскай дружбы.

Партнёр племзавода—калектыў дзяржгаса «Саннікі» Плоцкага ваяводства. Прадстаўнікі гэтай гаспадаркі ўжо двойчы пабывалі тут. Пухавіцкіх земляробаў зацікавіла высокая культура земляробства польскіх сяброў.

Даведаліся пухаўчане, што польскія сябры займаюцца вырошчваннем азімага харчовага рапсу, зерне якога выкарыстоўваецца для вытворчасці алею. Набылі ў іх 100 кілаграмаў насення, размножылі яго ў сябе. Цяпер дзяржплемзавод мае магчымасць намнога пашырыць пасевы гэтай культуры. Хутка ад калектыву дзяржгаса «Саннікі» паступіць камбінаваная сеялка, якая дазваляе сеяць розныя культуры—ад маку да кукурузы.

Сельскагаспадарчая вытворчасць у Польшчы шматукладная: ёю займаецца і прыватны сектар, і дзяржаўны. Земляробы беларускай гаспадаркі таксама ўкараняюць у сябе сямейны падрад, арэнду. Таму ім ёсць чаму павучыцца ў польскіх сяброў.

ЖЫВЁЛАГАДОЎЛЯ



**Каля сямі мільёнаў рублёў чыстага прыбытку атрымліваюць штогод у калгасе імя Горкага Пінскага раёна. Асноўную яго частку прыносіць жывёлагадоўля. Клапоцяцца ў гаспадарцы і аб умовах працы і быту даярак, даглядчыкаў жывёлы, пастухоў. На комплексах і буйных фермах абсталяваны Дамы жывёлавода, дзе можна адпачыць, прыняць душ, паглядзець тэлевізар.**

**НА ЗДЫМКУ: дойны статак калгаса на пашы.**

МІЖНАРОДНЫЯ СУВЯЗІ

## ВЫСТАЎКА НА КОЛАХ

**Не спатрэбілася многа часу для разгортвання выстаўкі дацкай фірмы «Бруль ог К'ер», якая працавала ў міжнародным выставачным комплексе Мінска. Усе вымяральныя прыборы, на выпуску якіх спецыялізуецца фірма, размясціліся ў фургонах аўтамабіляў. Прадстаўнікі «Бруль ог К'ер» сустрэліся са спецыялістамі Беларускага аўтазавода, які выпускае кар'ерныя самазвалы вялікай грузападымальнасці. Аўтамабілебудаўнікі ўжо маюць прыборы дацкай фірмы, якія дапамагаюць пры канструяванні машын дакладна вызначыць узроўні вібрацыі і шуму тых або іншых вузлоў.**

**Загадчык аддзела экспарту дацкай фірмы Стэн Фалінг падкрэсліў, што яны гатовы заключаць гандлёвыя здзелкі непасрэдна на выстаўцы, прычым не толькі з дзяржаўнымі прадпрыемствамі, але і з кааператывамі. Кантракты могуць заключацца як на валютнай, так і на бартэрнай аснове, калі прадпрыемства-пакупнік расплачваецца сваёй прадукцыяй.**

**Фірма ўжо наладзіла сувязі з прадпрыемствамі Масквы, Ленінграда, Кіева і Новасібірска, дзе створаны тэхнічныя цэнтры па абслугоўванню прыбораў. Падобныя «апорныя» пункты дацкія спецыялісты хацелі б мець і ў Беларусі.**

У ФОНД КУЛЬТУРЫ

## У ЭКСПАНАТАХ — ЖЫЦЦЁВАЯ МУДРАСЦЬ

**Падарунак тым даражэйшы, чым больш шчырыя пачуцці таго, хто яго дорыць. Гэта жыццёвая мудрасць знайшла сваё пацвярджэнне на выстаўцы, якая адкрылася ў Рэспубліканскім Доме работнікаў мастацтваў. На вернісажы «Дары Беларускаму фонду культуры» выстаўлена каля паўсотні работ жывапісцаў, графікаў, скульптараў, бясплатна перададзеных аўтарамі гэтаму новаму грамадскаму фарміраванню. Наведвальнікі, углядаючыся ў палотны і скульптуры, пераконваюцца: падораныя творы—сведчанне высокай грамадзянскай свядомасці аўтараў, іх асобага разумення ролі мастацтва ў развіцці грамадства, іх гатоўнасці прыняць асабісты ўдзел у дабрачынным руху.**

**Іх ужо нямала, дароў Фонду культуры: і грашовыя (ад некалькіх рублёў да тысяч), і дабрачынныя канцэрты на карысць фонду, і суботнікі, і карціны, якія дэманструюцца на гэтай выстаўцы, і многае іншае. Некаторыя дарыльшчыкі нават не ўказалі сваіх імёнаў, тым самым падкрэсліўшы: не дзеля славы робіць падарунак, а каб узняць узровень нацыянальнай культуры.**

**Сярод аўтараў, прадстаўленых на выстаўцы ў Доме мастацтваў, народны мастак БССР Леанід Шчамялёў, заслужаны дзеяч мастацтваў БССР Арлен Кашкурэвіч, вядомыя майстры пэндзля і разца Уладзімір Басалыга, Алена Лось, Аляксандра Паслядовіч, Уладзімір Лятун, Уладзімір Гоманаў, Георгій Лойка, Мікола Купава, Лазар Ран, Людміла Шчамялёва, Зоя Літвінава. Яны падарылі фонду лепшыя са сваіх работ, што расказваюць пра родны край, людзей, якія жывуць на гэтай зямлі, аб найбольш яркіх старонках гісторыі свайго народа.**

**На вернісажы мітрапаліт Мінскі і Беларускі Філарэт перадаў Беларускаму фонду культуры жывапіснае палатно XVI стагоддзя, якое належала царкве.**

АКТУАЛЬНАЕ У ПРЭСЕ

## УСВЯДОМЛЕНА ЦІ СІЛАЙ?

Адна з самых набалелых праблем, якая падзяліла нашу грамадскасць на антаганістычныя групы і групкі,—нацыянальная мова. Праводзіць беларусізацыю Беларусі ці не? А калі праводзіць, то як: добраахвотна, чакаць цярпліва, пакуль народ сам узнімецца да ўсведамлення, што яму патрэбна свая мова, ці прымусіць адміністрацыйна кожнага размаўляць па-беларуску? Гэтыя пытанні абмяркоўваліся нашымі інтэлектуаламі за «круглым сталом» у Інстытуце павышэння кваліфікацыі выкладчыкаў грамадскіх навук, прысвечаным тэме «Мастацкая літаратура, публіцыстыка і праблемы гуманітарнай адукацыі, выхавання выкладчыкаў і студэнтаў».

Як вынікае са справаздачы з гэтай дыскусіі, надрукаванай у газеце «Звязда», адзінага погляду на моўныя працэсы ў рэспубліцы за «круглым сталом» не было. Пісьменнік Барыс Сачанка адзначыў: «У нас мала чытаюць літаратуру. Нават многія вучоныя. Вось у чым бяда—ва ўзроўні адукаванасці. Нават Сталін раней чытаў усе творы, за якія давалася Сталінская прэмія, і мог паклікаць сакратара абкома або райкома і спытаць: «А памятаеце, як разважае Татарынаў? Гэта з якога твора?..» І сакратар абкома вымушаны быў чытаць мастацкую літаратуру.

Іншае пытанне—мова. Я ўзначальваю камісію ў Саюзе пісьменнікаў па выкладанню беларускай мовы і літаратуры ў школе. І гэтымі пытаннямі займаюся вельмі даўно. Стваранецца таварыства беларускай мовы, якое па ўсёй рэспубліцы зоймецца яе прапагандай. Пытанне складанае, нялёгка яго вырашаць. Я быў у адной аўдыторыі прапагандыстаў. Гэта былі загадчыкі парткабінетаў Мінска і Мінскай вобласці, сакратары райкомаў. Агульнай мовы нам, на жаль, знайсці не ўдалося. Была вельмі цяжкая дыскусія, дзе кожны чуў толькі сам сябе. Упершыню ў маім жыцці я многіх людзей не пераканаў.

Гаворка ідзе аб чым? Распрацоўваецца праграма «Родная мова», дзе ставіцца пытанні вельмі канкрэтна—дзяржаўная беларуская мова, абавязковае справаводства на роднай мове, без ведання дзвюх моў—рускай і беларускай—чалавек не можа быць на партыйнай, камсамольскай, выкладчыцкай і іншых пасадах. Рабочы, калгаснік няхай, як хочуць, гэта іх справа. Што ж датычыць вось гэтага грамадскага слоя,—абавязковае веданне дзвюх моў, а яшчэ лепш—трох, чатырох. Таму што сёння, калі мы думаем мець нейкія зносіны са светам, нам мала гэтых дзвюх моў. Вось аб чым ідзе гаворка. Ажыццявіць гэта нялёгка. Пачынаем мы з дзіцячых садоў, якія ў бліжэйшы час у большасці будуць беларускія. І з гэтага года ў Мінску адкрываецца 10 беларускіх школ. Адкрываюцца такія школы ў кожным горадзе. Гэта, вядома, непарадак быў, што карэнная нацыянальнасць—беларусы—у сваёй роднай сталіцы не маглі сваіх дзяцей вучыць на беларускай мове».

Прафесар І. Сярова выказала свой пункт погляду: «У дваццатыя гады ў Беларусі нароўні існавалі чатыры мовы: яўрэйская, беларуская, польская, руская. У тым ліку і надпісы на гербе былі на гэтых мовах. Дык чаму цяпер гаворка ідзе толькі аб беларускай? Чаму не гаворым аб стварэнні навучальных устаноў на польскай, яўрэйскай і іншых мовах? У Літве ёсць, а ў нас няма. Газеты польскай таксама ніводнай няма. І яшчэ (пытанне Б. Сачанку): наколькі ваша меркаванне аб беларусізацыі супадае з меркаваннем іншых людзей? У Магілёўскай вобласці мы правялі даследаванне. Звесткі ёсць, мы іх цяпер апрацоўваем. 52 працэнты беларусаў, 63—рускіх, каля 30—украінцаў, 40—яўрэяў, якія пражываюць там, лічаць, што беларусізацыя заўчасная. Трэба стварыць умовы для вывучэння мовы, падрыхтаваць дастатковую колькасць кадраў, а ўжо потым вырашаць праблемы пераводу справаводства і ўсяго іншага на беларускую мову. У Літве, Латвіі, Эстоніі гэта зрабілі па патрабаванню людзей. У нас—іншая сітуацыя. Такую сур'ёзную справу нельга вырашаць кавалерыйскім наскокам».

Барыс Сачанка выказаўся больш катэгарычна:

«Калі мы сёння кажам «нельга сілай», то, скажыце, колькі яшчэ і чаго мы робім сілай ва ўсіх сферах жыцця? Гэта ненармальнае становішча трэба ламаць. На беларускай мове створаны такія творы, што нам зайздросцяць усе,—мы можам Быкава чытаць у арыгінале! Мы павінны дапамагчы адчуць чалавеку, якая прыгожая беларуская мова. У нас не ставіцца так пытанне, як прыбалты паставілі: два гады на вывучэнне мовы, не вывучыў—калі ласка, выязджай з рэспублікі. Але нам балюча, калі сам беларус выступае супраць сваёй роднай мовы. Значыць, ён не дарос нават да нацыянальнай самасвядомасці».

## З МАРКАЙ «БАРЫФОРГА»

**Першую прадукцыю — пражу для ручнога вязання — выдала сумеснае савецка-венгерскае прадпрыемства «Барыфорг» у Барысаве. Венгерскі бок паставіў сучаснае абсталяванне, прыслаў спецыялістаў для яго ўстаноўкі і наладкі, дапамог будаваць памяшканне, у якім размясцілася высокапрадукцыйная вытворчасць. У асваенні магутнасцей разам з нашымі рабочымі прымалі ўдзел апаратары і майстры, якія прыехалі з ВНР. Большасць з іх цяпер рыхтуецца да ад'езду на радзіму. А вось Марыя Новакне, якую ўсе ў інтэрнацыянальным калектыве называюць проста Марыкай, не збіраецца ехаць: яна — намеснік генеральнага дырэктара «Барыфорга». Разам з мужам, які ўзначаліць прадзільную вытворчасць, яна стане тут паўнамоцным прадстаўніком венгерскага аб'яднання «Тэмафорг», чыя тэхналогія ўкараняецца на прадпрыемстве.**

**Што ж дае савецка-венгерскае супрацоўніцтва сістэме Белкаапсаюза, у рамках якой дзейнічае «Барыфорг»! Перш за ўсё высокаякасную прадукцыю, на якую сёння вялікі попыт. Дарэчы, уся яна ў гэтым годзе будзе прадавацца толькі насельніцтву рэспублікі. А з павелічэннем выпуску выйдзе на рынкі не толькі нашай краіны, але і Венгрыі.**



НА ЗДЫМКУ: прадукцыю «Барыфорга» дэманструе начальнік тэхнічнай лабараторыі Таццяна ПАЎЛАВЕЦ.

Фота А. НІКАЛАЕВА.

## ШТО ЗА ЦУДЫ «ПРЫЖЫЛІСЯ» Ў РЭСПУБЛІЦЫ

# НЕВЕРАГОДНАЕ І НЕЗВЫЧАЙНАЕ

**Апошнім часам сродкі масавай інфармацыі часта паведамляюць нам пра незвычайныя з'явы ў прыродзе, пра амаль чароўныя здольнасці асобных людзей. Адносіны да гэтага ва ўсіх розныя. Адны лічаць апісваемае нейкім махлярствам або нечым накшталт фокусаў цыркавых ілюзіяністаў. Іншыя безагаворачна вераць у іх, у магутнасць нейкай звышнатуральнай сілы. Але абыякавым не застаецца практычна ніхто.**

**Некаторыя «цуды» прыжыліся і ў нас, на Беларусі. Пра іх расказвае журналіст Аляксандр ШАГУН.**

### У ПОШУКАХ ВЯСКОВАГА БІЯТЭРАПЕЎТА

Жыве ў вёсцы Пільшычы Бялыніцкага раёна Фядора Конюхава — жанчына незвычайных здольнасцей. Яна, гавораць людзі, нават нерухомых інвалідаў на ногі ставіць. І лекі ў яе чыстыя, прыродныя — сцюдзёная крынічная вада, гліна, свае рукі і душэўнае гаючае слова.

Але ці мала чаго нагавораць людзі або напішуць у газеце дзеля сенсацыі! У рэдакцыі мясцовай раённай газеты цуд не адверглі. Наадварот, партрэт Ф. Конюхавай «размалявалі» яшчэ больш сакавітымі фарбамі: напрыклад, сваёй незвычайнай вадой яна лечыць раны, экземы, алергію. І ўплыў Фядоры Данілаўны, паводле водгукаў, вельмі адчувальны. Яе выратавальная энергія як бы перадаецца хвораму чалавеку, і той папраўляецца літаральна на вачах.

Дачуліся пра феномен Конюхавай і вучоныя. Фатаграфавалі яе ў інфрачырвоных промнях, сачылі, ці выпраменьвае электрамагнітнае поле. Гідрагеолагі з Інстытута геахіміі і геафізікі АН БССР вырашылі зрабіць поўны біяхімічны аналіз яе гаючай крыніцы.

— Значыць, і вы верыце ў выключныя магчымасці студні ў Бялынічах? — запытаў я ў доктара геолага-мінералагічных навук А. Кудзельскага.

— Вада нярэдка валодае моцнай лекавай сілай,— паведаміў прафесар. І зрабіў невялікі экскурс да «анатоміі» «жывых» крыніц Беларусі.— Яны, зразумела, менш вядомыя, чым воды Карлавых Вар, Сочы-Мацэсты альбо Трускаўца. Але служаць чалавеку гэтак жа надзейна, вяртаюць яму бадзёрасць і здароўе. Даўно і паспяхова выкарыстоўваюцца для лячэння страўнікава-кішэчных і іншых захворванняў сульфатна-хларыдна - натрыевыя падземныя воды ў санаторыях «Крыніца» (непадалёк ад Мінска), «Лётцы» (Віцебшчына) і «Нарач». Добрая слава ідзе аб хларыдна-натрыевай вадзе санаторыя імя Леніна ў Бабруйску, якая з'яўляецца незаменнай пры лячэнні апорна-рухальнага апарату, перыферычнай нервовай сістэмы, некаторых сардэчна-сасудзістых і іншых захворванняў.

Вядомыя ў Беларусі і серавадародныя воды. Яны выяўлены каля пасёлка Відзы на паўночным захадзе рэспублікі. Утрыманне ў іх серавадароду дасягае 50—60 міліграмаў на літр. Незвычайныя крыніцы пераўважна слаба мінералізаваны. І таму прыдатныя не толькі для ваннаў, але і піцця. І калі пабудаваць каля Відзаў курорт, у многіх жыхароў рэспублікі адпала б патрэба ездзіць у Сочы-Мацэсту.

Наогул на тэрыторыі рэспублікі гідрагеолаг М. Казлоў вылучыў 11 тыпаў мінеральных вод. Многа і асабліва каштоўных, насычаных ёдам і бромам.

У сваіх разнастайных палучэннях і варыяцыях «жывыя» крыніцы могуць вылечваць самыя розныя хваробы. Галоўнае, правільна карыстацца такой гаючай вадой. Відаць, Фядоры Данілаўне такое вось майстэрства лячэння пад сілу,— заключыў гутарку Кудзельскі.

Тлумачэнні прафесара некалькі высветлілі сітуацыю, але поўнасцю мяне не задаволілі. Чаму ж тады лепшыя курорты свету з'яўляюцца бяссільнымі перад хваробай, а ў Конюхавай, мяркуючы па расказах, ажываюць на вачах людзі, якія прайшлі і праз бальніцы, і праз курорты? Прафесар задумаўся, але пэўнага адказу не даў. Выказаў толькі сваё меркаванне:

— Магчыма, справа ў веры хворых у Фядору Данілаўну, яе магчымасць вылечыць. Яшчэ ж Гіпакрат казаў, што надзея і вера напалавіну аздараўляюць нямоглага. Але тое ўжо не мая сфера.

Неўзабаве звязаўся з Аддзелам тэарэтычных праблем Акадэміі навук СССР. Апрача іншых «сур'ёзных» навук, тут займаюцца і зусім маладой і «несур'ёзнай» — псіхатронікай.

Да бялыніцкай Фядоры Конюхавай лабараторыі аддзела яшчэ не дабраліся. Але беларуская гісторыя ім не ў навіну. На думку вучоных, Конюхава — біятэрапеўт з народа. І лечыць не столькі «жывою» вадою, колькі (прафесар Кудзельскі інтуітыўна не памыляўся) актыўным уплывам на мозг хворага чалавека. Сама лекарка гаварыла шматлікім субяседнікам, што імкнецца перадаць здаровую энергію: унушае, пераконвае — не бойся, каханенькі-родненькі, ажывеш, паднімешся.

Маскоўскія вучоныя лічаць, што ад такіх электрызуючых зносін мозг узбуджаецца і пачынае процідзейнічаць хваробе.

Амерыканскі фізік Стэфан Шварц ужо шмат гадоў вывучае ўплыў экстрасенсаў на ваду і на багатым статыстычным матэрыяле засведчыў: яна мяняе спектральныя характарыстыкі. Калі ісці за яго логікай, вынікае, што «жывая» вада ў цудадзейных руках Фядоры Данілаўны мяняе свой састаў і становіцца яшчэ больш актыўнай і гаючай.

### «ШУМНЫ ДУХ» З БАРЫСАВА

...Летам мінулага года ў доме сям'і Клімашонкаў з Барысава пачало тварыцца штосьці неверагоднае. Па хаце раптам пачалі лятаць талеркі, іншы посуд. Стралой пікіраваў парасон. Яго дзюбка цэлілася ў галовы гаспадароў, але, не даляцеўшы да чалавека некалькі крокаў, парасон падаў на зямлю. З электралічыльніка адна за адной выляталі засцерагальныя пробкі. Толькі яе закруцяць — глядзіш, сама выкручваецца і нясецца праз акно, дзверы на вуліцу з хуткасцю артылерыйскага снарада. Ды не раз, два, а дзень за днём. Гаспадарам настолькі надакучылі «страляючыя» пробкі, што асцерагаліся ўстаўляць іх у электралічыльнік. Сядзелі без святла. Але гэта — «кветачкі». «Ягадкі» ўбачылі гаспадыня дома з суседкай. Стаялі абедзве жанчыны, размаўлялі. Раптам — глухі стук, і побач з імі на цэментную дарожку каля прызбы апускаецца патэльня з блінцамі, накрытая талеркай, каструля з супам і чайнік.

Ёсць ад чаго здзівіцца. Ці не праўда? Абедзве жанчыны за хвіліну перад гэтым былі на кухні, сваімі вачамі бачылі на газавай пліце некрануты посуд з абедам. У той хаце, здаецца, не было старонніх дарослых людзей ці дзяцей, якія б маглі гэтак пажартаваць. У доме Клімашонкаў усё змяшалася. Адбываліся самыя неверагодныя выпадкі: падала люстэрка, раскрываліся ложкі, і коўдра з падушкамі лятал па хаце. Карацей, многія рэчы хатняга ўжытку беспрычынна пачыналі рухацца. Ці была зроблена якая шкода? Не. За ўвесь час не разбілася ніводнай талеркі альбо шклянога слоіка.

Барысаўская міліцыя наконт інцыдэнта ў доме Клімашонкаў завяла цэлую справу. Вялі яе самыя вопытныя мясцовыя шэрлак-холмсы. Але што дакажаш, каго зловіш? Хіба што «нячыстую сілу»?

Адно толькі барысаўскія міліцыянеры зафіксавалі дакладна: ніякага злога жарту, наўмыснага дзеяння з мэтай прычынення шкоды Клімашонкам не было. Ніякіх правакацый не рабілі і самі гаспадары. Дык што ж тады за «нячысцік» завёўся ў Барысаве?

У знаёмым ужо нам Аддзеле тэарэтычных праблем Акадэміі навук СССР гэту з'яву трактуюць як палтэргейст, або ў перакладзе з нямецкай мовы — «шумны дух».

Барысаў не нейкі феномен у гэтай загадкавай прыроднай з'яве. Вучоныя, корпаючыся ў розных крыніцах, налічылі тысячы палтэргейстаў. Іх назіралі яшчэ ў старажытныя часы. Толькі замест электрапробак у паветры насіліся свечкі або лямпы. Як жа тады чалавеку было не паверыць у незямныя сілы? І да сённяшняга часу падобная з'ява да канца не вывучана і таму не з'яўляецца поўнасцю зразумелай. Налічваецца зв[illegible]0 гіпотэз, якія спрабуюць растлумачыць палтэргейст. У асноўных з іх сцвярджаецца: «шумны дух» — складаны комплекс вядомых ці яшчэ невядомых навуцы фактараў. Даследчыкі прыводзяць аналогіі палтэргейства з шаравой маланкай. У адной і другой з'явы ёсць некаторыя сходныя фізіка-тэхнічныя характарыстыкі. І таму вядомыя ў навуковых колах вучоныя акадэмікі В. Трапезнікаў, Ю. Кобзараў і іншыя выказваюцца за шырокія даследаванні з'явы з выкарыстаннем прыбораў, пастановак эксперыментаў. «Шумны дух» жыве ў фізічнай прасторы. І электрапробкі ў Барысаве лятал з пэўнай сілай і частатой. Крыху больш святла на таямнічую з'яву праліваюць доследы ленінградскіх вучоных. Яны змералі магнітныя электрычныя палі, ствараемыя рукамі некаторых экстрасенсаў. Напружанне палёў было даволі вялікім. Адзін са звышадчувальных людзей ствараў поле, у якім маглі рухацца лёгкія прадметы. Такія з'явы вучоныя тлумачылі існуючымі законамі электрадынамікі і акустыкі.

Але ці тлумачацца гэтымі законамі барысаўскія падзеі? Гэтага мы не можам сказаць. Не бяруць на сябе такой смеласці і субяседнікі з АН СССР. Няма падстаў далучаць да атрада экстрасенсаў і кагосьці з гаспадароў барысаўскага дома. Праверыць і даказаць штосьці на практыцы таксама позна. Як паведамілі аўтару прадстаўнікі барысаўскай міліцыі, таямнічыя з'явы ўжо зніклі і больш не паўтараюцца. А вучоныя выказваюць гіпотэзу за гіпотэзай. Аднак таямнічыя з'явы накшталт барысаўскай, не знікаюць зусім. Наадварот, ствараецца ўражанне, што яны пачасціліся. І вучоныя падыходзяць да думкі аб магчымасці перадачы нейкага новага спосабу інфармацыі, зносін. І гэты спосаб, відаць, і дапаможа растлумачыць пакуль яшчэ загадкавыя з'явы.

Вось чаму ў Аддзеле тэарэтычных праблем акадэміі створана міжнародная праграма па экстрасенсах і іншых ашаламляючых праблемах. Вучоныя імкнуцца зразумець пакуль што дзіўныя для ўсіх з'явы і затым выкарыстаць іх на карысць усяму чалавецтву.

**ПРАКТЫЧНАЯ КАНФЕРЭНЦЫЯ**

## У ЦЭНТРЫ ДЫСКУСІЙ — ЧАЛАВЕК

Працэс перабудовы непарыўна звязаны з пераглядам ранейшых цэнасных арыенціраў грамадства і асобы. На якой метадалагічнай аснове працягваць пачатыя пераўтварэнні? Якія праблемы духоўнага абнаўлення сацыялізму і перспектывы радыкальнай эканамічнай рэформы? У чым асаблівасці дэмаграфічнага развіцця краіны? Пошук адказаў на гэтыя і іншыя пытанні, асэнсаванне набытага вопыту правялі ўдзельнікі Усесаюзнай навукова-практычнай канферэнцыі «Дыялектыка. Перабудова. Чалавек» у Мінску. Размова, пачатая на пленарным пасяджэнні, працягвалася ў дыскусіях на секцыях. Вось выказванні некаторых вучоных:

У. Давідовіч, доктар філасофскіх навук, загадчык кафедры Растоўскага універсітэта:

— У цэнтры дыскусіі, разгорнутай на секцыі «Філасофскія і сацыякультурныя праблемы чалавека», знаходзяцца пытанні, што хвалююць, без перабольшання, кожнага з нас. Гэта перш за ўсё гуманізацыя грамадскага жыцця, паварот увагі да рэальнага чалавека, пошук тых аптымальных варыянтаў, якія дапамаглі б ажыццявіць гэтыя генеральныя задачы. На секцыі ішоў, прычым вельмі актыўна, пошук новых сучасных філасофскіх канцэпцый, што даюць магчымасць адарвацца ад дагматычнага падыходу да марксізму.

На мой погляд, «чалавечы фактар» ярка праявіўся ў выступленнях многіх нашых калег. У іх дадзены глыбокі аналіз месца чалавека ва ўмовах навукова-тэхнічнай рэвалюцыі, пабудовы такога яго вобраза, які зможа эфектыўна дзейнічаць у працэсах абнаўлення грамадства. У мінулым гэты вобраз ствараўся вельмі схематычна, што значна ўскладніла нам вырашэнне многіх праблем сённяшняга дня.

Здзіслава П'ентэк, дацэнт Кракаўскага універсітэта (ПНР):

— Мне, спецыялісту па генетыцы, канферэнцыя дала, як я пераканалася, масу матэрыялу. Бо не сакрэт, што біялагічная навука ўсё больш патрабуе філасофскага асэнсавання яе дасягненняў, іх уплыву на чалавека і цывілізацыю ў цэлым. У Мінску я ўбачыла зусім новы падыход савецкіх калег да многіх пытанняў, на якія раней распаўсюджвалася «фігура змаўчання».

Мяне даўно хвалюе праблема сумяшчальнасці эвалюцыі культуры і біялогіі. Тут я ўзяла мноства прыкладаў таго, на што трэба зрабіць акцэнты ў рабоце над гэтай тэмай.

КРУГЛЫ СТОЛ „ГОЛАСУ РАДЗІМЫ“

# КАЛІ ВЫ ЗБІРАЕЦЕСЯ ДА НАС...

**Надыходзіць лета — час водпускаў, падарожжаў, паездак да сяброў, родных і блізкіх. Збіраюцца наведаць сваю Радзіму і многія нашы суайчыннікі, якія жывуць у розных краінах. Пра гэта яны напісалі ў сваіх лістах у рэдакцыю. Яны таксама ставяць цэлы шэраг пытанняў, якія тычацца магчымасцей наведання розных гарадоў, турыстычнага абслугоўвання ў Беларусі, паездак да родных, таможных і іншых правілаў для замежных грамадзян. Каб адказаць на іх, мы запрасілі ў рэдакцыю «Голасу Радзімы» начальніка Беларускага ўпраўлення Дзяржаўнага камітэта па замежнаму турызму СССР Вячаслава ІВАНОВА, намесніка начальніка Аддзела віз і рэгістрацый Упраўлення ўнутраных спраў Мінгарвыканкома (АВІР) Уладзіміра МАТУСЕВІЧА і начальніка Беларускай тэрытарыяльнай таможні Пятра КРЭЧКО.**



**— Большасць пытанняў у пісьмах суайчыннікаў тычацца магчымасцей наведвання сваякоў у розных гарадах і вёсках Беларусі. Таму першае пытанне да вас, Уладзімір Міхайлавіч. Што неабходна зрабіць, каб ажыццявіць такую паездку?**

— Перш за ўсё хачу адзначыць, што за апошнія два гады ў гэтым пытанні адбыліся значныя змяненні. Калі раней з боку замежных грамадзян, якія жадалі наведаць нашу краіну па прыватных справах, мелася нямала нараканняў на доўгія тэрміны і складанасць працэдуры афармлення дакументаў на паездку, то цяпер іх, можна сказаць, няма зусім. Гэта рэальны плён перабудовы, што адбываецца ў нашай краіне, дэмакратызацыі нашага грамадства. Ужо больш двух гадоў дзейнічае Пастанова Савета Міністраў СССР «Аб унясенні дапаўненняў у Палажэнне аб уездзе ў Саюз Савецкіх Сацыялістычных Рэспублік і аб выездзе з Саюза Савецкіх Сацыялістычных Рэспублік». У адпаведнасці з ім адбыліся вялікія змяненні адносна ўезду ў нашу краіну і знаходжання ў ёй замежных грамадзян. Для тых, хто мае сваякоў у нашай рэспубліцы, прыехаць да іх у госці цяпер не складае асаблівай праблемы. Яны атрымліваюць афіцыйнае запрашэнне ад родных у БССР, звяртаюцца з ім у бліжэйшае савецкае консульства ў сваёй краіне, і там у кароткі тэрмін ім афармляюць усе неабходныя дакументы. Можна звяртацца за дазволам на паездку да сваякоў, і не маючы запрашэння ад іх. У гэтым выпадку працэдура афармлення крыху іншая, але ўсё роўна не займае многа часу. Дарэчы, калі раней можна было наведваць родных раз у год, то цяпер колькасць паездак не абмяжоўваецца. Дадам яшчэ некалькі слоў, што не тычацца непасрэдна вашага пытання. Тым не менш, думаю, гэта будзе цікава для нашых замежных суайчыннікаў. Цяпер вельмі хутка развіваецца міжнароднае супрацоўніцтва. Нямала нашых суайчыннікаў працуе ў фірмах, якія маюць дзелавыя сувязі з нашай краінай і ўдзельнічаюць у ажыццяўленні розных сумесных праектаў на нашай тэрыторыі. Прадстаўнікам такіх фірм выдаюцца шматразавыя візы. Гэта значыць, ім не трэба кожны раз звяртацца за дазволам на паездку дамоў і вяртанне назад.

**— Многія нашы суайчыннікі, што жывуць за мяжой, з'яўляюцца савецкімі грамадзянамі. Ці існуюць адрозненні ў правілах уезду ў краіну для гэтай катэгорыі асоб у параўнанні з іншымі замежнымі грамадзянамі?**

— Працэдура афармлення дакументаў на ўезд істотна не адрозніваецца, хаця часцей за ўсё гэтыя людзі не карыстаюцца запрашэннямі ад сваякоў, а самі падаюць заявы ў консульствы. Іх там, у асноўным, ведаючы па папярэдніх паездках, і выдача дакументаў адбываецца ў кароткі тэрмін. Пасля прыезду да нас яны маюць права свабодна перамяшчацца па тэрыторыі краіны, акрамя тых месцаў, на ўезд у якія ўсім грамадзянам СССР неабходна атрымаць спецыяльны дазвол. Калі асобы такой катэгорыі прыбываюць на тэрмін да 45 сутак, то ім нават не трэба прапісвацца. Дарэчы, цяпер даволі многа шлюбаў савецкіх грамадзян з іншаземцамі. Часта члены такіх сямей жывуць асобна, кожны ў сваёй краіне. І грамадзяне СССР, у якіх муж, жонка альбо іншыя блізкія сваякі жывуць за мяжой, маюць права свабодна ехаць туды. Цяпер выязныя дакументы сапраўдныя на 6 месяцаў, і на працягу гэтага часу колькасць паездак не абмяжоўваецца, гэта значыць, можна ездзіць па адных дакументах некалькі разоў.

**— Уладзімір Міхайлавіч, многіх нашых суайчыннікаў хвалюе пытанне аб магчымасці прыезду да іх сваякоў з нашай краіны. Што вы можаце сказаць наконт гэтага?**

— Тут таксама [illegible] апошнія два гады шмат что [illegible] сцілася. Цяпер многія савецкія грамадзяне выязджаюць за мяжу па прыватных справах. І не толькі ў госці да родных, але і да сяброў, проста знаёмых у іншых краінах. Для атрым[illegible]я дакументаў на такую па[illegible]у неабходна запоўніць невялікую анкету з 5—7 пытанняў, завераць яе на рабоце і прыкласці да яе запрашэнне. Раней такія анкеты мелі амаль 30 пытанняў.

**— І ўсё ж іншы раз мы атрымліваем скаргі на тое, што сваякоў не выпускаюць за мяжу. Вось зусім нядаўна прыйшло даволі сярдзітае пісьмо Таццяны Дубанавай з Канады, якая піша, што яе цётцы і сястры састарэлага бацькі Марыі Дубанавай з Віцебска доўгі час не дазваляюць прыехаць да іх у госці. Ёсць скаргі і на тое, што некаторыя замежныя суайчыннікі не змаглі трапіць да родных тут, у Беларусі.**

— Я, вядома, не змагу адказаць канкрэтна на скаргу Таццяны Дубанавай. Яе сваячка пражывае ў Віцебску, і разбірацца трэба там на месцы. Але магу пацвердзіць, што, як і ва ўсіх іншых краінах, абмежаванні на выезд ёсць і ў нас. Напрыклад, выезд па прыватных справах грамадзянін СССР не дазваляецца, калі ён валодае якімі-небудзь дзяржаўнымі сакрэтамі ці маюцца іншыя прычыны, што закранаюць бяспеку дзяржавы. У кожным выпадку трэба разбірацца асобна. Могуць быць скаргі, звязаныя з затрымкай выдачы дакументаў. Але на гэта існуюць аб'ектыўныя прычыны. Паток выязджаючых за мяжу па прыватных справах вельмі рэзка ўзрос, а нашы штаты засталіся ранейшымі. Мы стараемся гэтую праблему вырашаць, збіраемся нават залучаць для афармлення дакументаў раённыя Бюро добрых паслуг, створаны аддзяленні АВІР у раёнах горада, будзе цэнтралізавана праводзіцца далейшая працэдура спрашчэння афармлення дакументаў. Так, нашы грамадзяне будуць ездзіць у сацыялістычныя краіны па свайму агульнаграмадзянскаму пашпарту з укладышам. Будуць прымацца і іншыя меры, каб гэтую праблему зняць. Дарэчы, я часткова падышоў да адказу і на другую частку вашага пытання. З тымі замежнымі грамадзянамі, хто загадзя аформіў дакументы на наведанне сваякоў яшчэ ў сябе дома, ніякіх пытанняў не ўзнікае. Аднак ёсць выпадкі, калі суайчыннік прыязджае ў складзе турыстычнай групы і за некалькі дзён, што ён знаходзіцца ў Мінску, хоча яшчэ з'ездзіць да сваякоў у вёску. Вось тут усё значна складаней. «Інтурыст» адказвае за кожнага свайго госця ў нашай краіне. Таму любое адхіленне ад маршруту павінна афармляцца праз гэтую арганізацыю.



**— Мы ўжо закранулі і пытанне аб «Інтурысце». Не маглі б цяпер вы, Вячаслаў Віктаравіч, больш падрабязна спыніцца на рабоце Беларускага ўпраўлення Дзяржаўнага камітэта па замежнаму турызму СССР?**

— Пачну з агульнавядомай ісціны: турызм служыць умацаванню дружбы і ўзаемаразумення паміж народамі. Гэта яго галоўная задача. Але турызм прыносіць і немалы даход тым, хто ўмее яго добра арганізаваць. На жаль, пакуль мы не можам пахваліцца, што наблізіліся да вядучых турыстычных дзяржаў свету. Гэта не трэба разумець так, што ў нас дрэннае абслугоўванне ці няма чаго паказаць турыстам. Уся бяда, што мы проста не ў стане прыняць усіх, хто хоча пабываць у нашай рэспубліцы. А колькасць такіх людзей за апошнія чатыры гады ўзрасла ў некалькі разоў. Перабудова, палітыка публічнасці і адкрытасці выклікалі вялікую цікавасць да нашай краіны і Беларусі, у прыватнасці. А мы пакуль маем дзве ўласныя гасцініцы, матэль і кемпінг у Мінску і гасцініцу ў Брэсце. Гэтага яўна недастаткова.

Затое мы можам пахваліцца тым, што турысты, якія трапляюць у Беларусь, ніколі не пакідаюць нас расчараванымі. Наадварот, яны рэкамендуюць прыехаць сюды сваім сябрам, многія самі не раз паўтараюць гэтую паездку. Нашых гасцей чакаюць цікавыя турыстычныя праграмы, добрыя ўмовы пражывання, адметная беларуская кухня.

**— Ці адрозніваюцца ад звычайных тыя праграмы, якія вы прадастаўляеце тургрупам суайчыннікаў?**

— Так, крыху адрозніваюцца. Такія групы мы прымаем сумесна з Беларускім таварыствам «Радзіма» і ў кожным канкрэтным выпадку ўлічваем запатрабаванні гасцей, якія звычайна загадзя паведамляюць, што хочуць паглядзець. Дадам: «Інтурыст» аказвае Беларускаму таварыству «Радзіма» вялікую дапамогу ў прыёме дэлегацый, абслугоўванні розных мерапрыемстваў. Напрыклад, мы дапамагаем у правядзенні курсаў павышэння кваліфікацыі кіраўнікоў калектываў мастацкай самадзейнасці прагрэсіўных арганізацый суайчыннікаў за мяжой, курсаў па вывучэнню беларускай гісторыі і культуры. Карыстаючыся выпадкам, хачу сказаць нашым замежным землякам, што і тым, хто прыязджае ў Беларусь па прыватных візах, «Інтурыст» можа аказаць нямала паслуг. Гэта арганізацыя розных экскурсій, наведанне тэатраў і канцэртаў, нашага культурнага цэнтра. Вядома ж, гэтыя і многія іншыя дадатковыя паслугі і ў распараджэнні нашых турыстаў, аж да аказання дапамогі, як ужо гаварылася, у атрыманні дазволу на наведанне родных у вёсках і арганізацыі самой паездкі.

**— Дарэчы, аб гэтай апошняй паслузе. Мне не раз даводзілася чуц[illegible] замежных суайчыннікаў, ш[illegible] за дапамогу ў атрыманні візы на паездку да сваякоў «Інтурыст» бярэ вельмі вялікія грошы. Гавораць таксама, што ўвогуле цэны «Інтурыста» высокія. Ці так гэта?**

— Не зусім, нават зусім не так. З[illegible]амогу ў атрыманні дазво[illegible]ы нічога не бяром. Але справа ў тым, што наша арганізацыя камерцыйная, натуральна, нашы паслугі платныя. Акрамя таго, каб поўнасцю праясніць сітуацыю, скажу, што з моманту прыбыцця ў нашу краіну мы нясём поўную адказнасць за кожнага турыста, яго здароўе і бяспеку. І калі з ім здарыцца які-небудзь няшчасны выпадак па нашай віне, асабліва далёка ад агаворанага з фірмай-партнёрам маршруту, то нам прыйдзецца выплачваць вельмі вялікую кампенсацыю. Таму мы адпраўляем іх туды на сваёй машыне і нехта з нашых супрацоўнікаў суправаджае госця. Нярэдка маршрут туды і назад складае 500—600 кіламетраў. Вядома, ім даводзіцца за гэта плаціць, а такі прабег плюс аплата шафёра і суправаджаючага сапраўды складаюць значную суму, але намнога меншую, чым гэта каштавала б у краінах Заходняй Еўропы ці ў ЗША, напрыклад.

**— Яшчэ адно пытанне, Вячаслаў Віктаравіч. Большасць нашых суайчыннікаў ужо не раз бывала тут і добра знаёма з традыцыйнай турысцкай праграмай. Што новага зможаце вы ім прапанаваць у гэтым годзе?**

— Непадалёку ад Мінска адкрываецца музей беларускага народнага дойлідства. З'явіліся новыя турысцкія маршруты: Гродна — Вільнюс — Мінск — Брэст; Мінск — Віцебск — Магілёў — Мінск; Мінск — Гомель. Адкрываем у бліжэйшай будучыні турыстычныя цэнтры ў такіх старажытных гістарычных гарадах Беларусі, як Навагрудак і Нясвіж. Спадзяюся, нашых замежных землякоў гэта зацікавіць.

**— Час ад часу ў нашых замежных гасцей узнікаюць непрыемнасці на таможні. Як нам здаецца, тлумачыцца гэта, у асноўным, няведаннем імі таможных правілаў. Дарэчы, нядаўна ў іх адбыліся значныя змяненні... Таму просім ужо вас, Пётр Васільевіч, даць неабходныя тлумачэнні наконт гэтага.**



— Хачу напомніць, што з 1 лютага 1989 года былі ўведзены ў дзеянне новыя правілы па абмежаванню вывазу асобных тавараў народнага спажывання з СССР.

Гэтымі Правіламі прадугледжана, што грамадзянам, якія пастаянна жывуць за мяжой і знаходзяцца ў СССР у якасці турыста і па асабістых справах, у тым ліку па запрашэнню асоб, якія пастаянна пражываюць у СССР, забаронены вываз адсюль: кавы натуральнай і растваральнай, ікры асятровых і ласосевых рыб, тэлевізараў каляровага і чорна-белага адлюстравання, халадзільнікаў, маразільнікаў, пральных машын, швейных машын, дзіцячага адзення і абутку. Шэраг тавараў бытавога прызначэння, такіх, як электрапыласосы, кандыцыянеры, электрасамавары і да т. п., усяго 38 назваў, прапускаецца пры вывазе толькі па аднаму прадмету кожнай назвы на адну асобу і толькі з аплатай таможнай пошліны ў памерах, указаных у спісе. Замежныя госці, хто прыбывае ў нашу краіну, могуць азнаёміцца з гэтым спісам у любой савецкай таможні. За выключэннем вышэйназваных, агульны кошт купленых прадметаў і падарункаў, уключаючы ювелірныя вырабы, якія прапускаюцца бяспошлінна на адну асобу ўказанай катэгорыі, не павінен перавышаць 100 рублёў па рознічных дзеючых у СССР цэнах. Калі замежны грамадзянін набывае тавары народнага спажывання ў спецыялізаваным магазіне на замежную валюту, то такія тавары прапускаюцца бесперашкодна, але пры наяўнасці тавarных чэкаў гэтых магазінаў.

Пры ўездзе па запрашэнню асоб, пастаянна пражываючых у СССР, грамадзяне сацыялістычных краін могуць увозіць падарункі агульным коштам да 500 рублёў.

Грамадзянам іншых дзяржаў дазволена ўвозіць падарункі агульным коштам да 300 рублёў па дзеючых у СССР рознічных цэнах.

Тая частка падарункаў, агульны кошт якіх перавышае 500 ці адпаведна 300 рублёў, можа быць прапушчана з аплатай таможнай пошліны.

Інфармуючы аб некаторых таможных правілах, хачу нагадаць, што калі ў замежных грамадзян, якія прыбываюць да нас, узнікаюць якія-небудзь пытанні, звязаныя з парадкам вывазу розных тавараў, яны могуць папярэдне звярнуцца ў бліжэйшую таможню і атрымаць кансультацыю па гэтых пытаннях.

**— Хачу падзякаваць усім вам за ўдзел у нашай гутарцы. Спадзяюся, што нашы чытачы атрымалі поўныя адказы на свае пытанні і гэта значна аблягчыць ім клопаты з прыездам у Беларусь.**

Вёў гутарку
Рыгор ФАМЕНКА.

